Свабодны Салігорск

Незалежная газета Салігорска

Выдаецца з верасьня 2006 г. пры інфармацыйнай падтрымцы Салігорскага Маладога Фронта ды сайта **saligorsk.org** **№13**

## У нумары

### Год за кратамі

15 верасьня спаўняецца год, як за кратамі апынуўся лідэр незарэгістраванай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» Зьміцер Дашкевіч.
Яго ўзялі пад варту, калі Зьміцер разам з адвакатам Аляксандрам Галіевым прыйшоў на допыт па справе «Маладога фронту» ў рэспубліканскую пракуратуру.

**Старонка 2**

### Прадпрымальнікі падазраюць службоўцаў у змане

Падобна, што Салігорская вэртыкаль разглядае дробны бізнэс як рахманую «дойную карову». Але і яна, аказваецца, можа баднуць. На днях прадпрымальнікам з муніцыпальнага рынку «Кастрычніцкі» абвясьцілі аб раптоўным падвышэньні арэнднага поплатка на 0,5 эўра за квадратны мэтар гандлёвага пляца.

**Старонка 5**

### У сямейным фармаце

Дзесяцігодзьдзе «Маладога фронту» пачалося міліцэйскай засадай, а скончылася паяданьнем торту.
Роўна дзесяць гадоў таму, 6 верасьня 1997 году ў Палацы культуры «Сукно» прайшоў устаноўчы сход «Маладога фронту». Гэтую арганізацыю склала моладзь зь Менску, Магілёва і Горадні. 6 верасьня 2007 многія з тых людзей сабраліся ва ўправе Партыі БНФ, каб адзначыць гэтую дату.

**Старонка 7**

# СУД НАД ІВАНАМ ШЫЛА

**(фотарэпартаж)** **старонка 3,4**




## «Страйк на «Беларуськаліі» — гэта вельмі сур'ёзны сыгнал для ўлады»



У канцы мінулага тыдня на суткі спынілі працу рудні РУП ВА "Беларуськалій". 8—9 верасьня ні адна з рудняў прадпрыемства не выканала сутачны плян. Па словах працоўных, гэта быў так званы папераджальны стрэл. Калі ўлада не задаволіць іх патрабаваньня, шахцёры маюць намер правесьці маштабную акцыю пратэсту 24 верасьня.
Як распавёў "Народнай волі" прадстаўнік арганізацыі прафсаюза працаўнікоў хімічнай, горнай і нафтавай галін прамысловасьці ФПБ, прафсаюзы да аднадзённага страйку на "Беларуськаліі" ня мелі ніякага дачыненьня.
"Гэта здарылася бяз нас, — сказаў сябра ФПБ. — Такім чынам працоўныя, верагодна, адрэагавалі на выказваньні гэндырэктара "Беларуськалія" Андрэя Башуры на паседжаньні прафкама, якое адбылося напярэдадні Дня шахтара.

**Старонка 2**



# БЕЛАРУСКУЮ КНІГУ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ

Мы зьвяртаемся да ўсіх неабыякавых людзей, з просьбаю падтрымаць кампанію "Беларускую кнігу-беларускім дзецям". Вы мусіце ўсьведамляць важкасьць выхаваньня дзяцей. Дзякуючы намаганьням антынацыянальных уладаў, нашыя дзеці сёньня фактычна пазбаўлены магчымасьці чытаць беларускіх і замежных аўтараў на роднай мове.З першага верасьня з школьнай праграмы выкінуты творы клясыкаў беларускае літаратуры.

**Старонка 2**

# БЕЛАРУСКУЮ КНІГУ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ

Мы зьвяртаемся да ўсіх неабыякавых людзей, з просьбаю падтрымаць кампанію **"Беларускую кнігу-беларускім дзецям".**

Вы мусіце ўсьведамляць важкасьць выхаваньня дзяцей. Дзякуючы намаганьням антынацыянальных уладаў, нашыя дзеці сёньня фактычна пазбаўлены магчымасьці чытаць беларускіх і замежных аўтараў на роднай мове. З першага верасьня з школьнай праграмы выкінуты творы клясыкаў беларускае літаратуры.

Зрусіфікаваная сыстэма адукацыі не спрыяе выхаваньню сапраўдных патрыётаў нашае Бацькўшчыны, ставіць на мэце зьнішчэньне нацыянальнае самасьвядомасьці маладога пакаленьня беларусаў.Робіцца відавочным,што гэта не выпадковасьць, а мэтанакіраваная, шматгадовая палітыка.Такая сытуацыя выклікае нашую занепакоенасьць, бо мы-тыя людзі,што адказваюць за будучыню нашае краіны,за новае пакаленьне моладзі.

Калі дзяржава ня можа на належным узроўні займацца адкукацыяй і выхаваньнем новага пакаленьня беларускае моладзі, мы мусім усімі магчымымі шляхамі спрыяць нацыянальна-арыентаванаму выхаваньню, выхаваньню на традыцыйных беларускіх каштоўнасьцях і традыцыях.

Сёньня мы распачынаем збор беларускамоўных кніжак для дзіцячых дамоў і школаў інтэрнатаў.

**Ня будзьма абыякавымі. Дзеля нашых дзяцей! Дзеля будычыні! Дзеля Беларусі! Прымі ўдзел у кампаніі!**

Падтрымаць кампанію можна пастаіўўшы банэр на свой сайт ці ЖЧ, перадаць кнігі і ахвяраваньні на набыцьцё кніжак, ініцыраваць збор кніжак у сваім горадзе.

Зьвязвацца можна па тэлефонах **+375293700204(Салігорск), +375296903474(Слуцак)**, эл. пошце **salihorsk@gmail.com**.

Дадатковую інфармацыю можна знайсьці на сайтах **saligorsk.org** і **slucak.org**

Сабраныя кнігі будуць перададзены ў Слуцкі і Старадарожскі дзіцячыя дамы.

**Салігорскі Малады Фронт і Слуцкі Рух "За Свабоду"**

# «Страйк на «Беларуськаліі» — гэта вельмі сур'ёзны сыгнал для ўлады»

У канцы мінулага тыдня на суткі спынілі працу рудні РУП ВА "Беларуськалій". 8—9 верасьня ні адна з рудняў прадпрыемства не выканала сутачны плян. Па словах працоўных, гэта быў так званы папераджальны стрэл. Калі ўлада не задаволіць іх патрабаваньня, шахцёры маюць намер правесьці маштабную акцыю пратэсту 24 верасьня.

Як распавёў "Народнай волі" прадстаўнік арганізацыі прафсаюза працаўнікоў хімічнай, горнай і нафтавай галін прамысловасьці ФПБ, прафсаюзы да аднадзённага страйку на "Беларуськаліі" ня мелі ніякага дачыненьня.

"Гэта здарылася бяз нас, — сказаў сябра ФПБ. — Такім чынам працоўныя, верагодна, адрэагавалі на выказваньні гэндырэктара "Беларуськалія" Андрэя Башуры на паседжаньні прафкама, якое адбылося напярэдадні Дня шахтара. Тады як раз разглядаўся пытаньне аб правядзеньні мітынгу супраць ушчамленьня правоў па палёгкавым пэнсійным забесьпячэньні 24 верасьня. Гэндырэктар "Беларуськалія" быў супраць мітынгу. Але з 39 прысутнічаючых сябраў прафкама 34 прагаласавалі за правядзеньне акцыі пратэсту.

2 верасьня брыгадзіры забойных брыгад прынялі самастойнае рашэньне правесьці так званы італьянскі страйк — шахтары спусьціліся пад зямлю, але не выдалі на-гара ні адной тоны руды.

Сёньня на прадпрыемстве ўсё адносна спакойна. 19 верасьня працоўныя павінны сустрэцца з дэпутатамі «палаты прадстаўнікоў». Калі іх патрабаваньні не будуць здаволеныя, яны ізноў будуць страйкаваць".

Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандар Ярашук гаворыць, што галоўнае патрабаваньне шахтароў — захаваць пэнсію тым, хто пасьля дасягненьня пэнсійнага веку працягвае працаваць на "Беларуськаліі".

"На мой погляд, тое, што адбылося на "Беларуськаліі", — гэта вельмі сур'ёзны сыгнал для ўлады, — гаворыць **Ярашук**. — Без шуму, без рэклям, без якіх-небудзь галосных заяў людзі выказалі сваю незадаволенасьць

На "Беларуськаліі" сёньня працуе эліта працоўнага кляса краіны. Працоўныя нагадалі, што яны могуць абараніць свае інтарэсы і правы. Гэта быў папераджальны страйк, які павінен быў паставіць на месца асобных службоўцаў, прымаючых сёньня законы і рашэньні.

Ці задаволіць зараз улада патрабаваньні шахтароў? Думаю, можна з вялікай дзельлю ўпэўненасьці гаварыць аб тым, што зараз закон аб пэнсіях у першапачатковай рэдакцыі ці наўрад будзе прыняты. Улада насамрэч асьцерагаецца не палітычных партый, а працоўных, якія могуць выйсьці на вуліцы. Як нэўтралізаваць партыі, улада ведае, але яна паняцьця ня мае, як рэагаваць на масавыя выступы працоўных. А тое, што яны могуць выступіць, пацьвердзіў аднадзённы страйк на "Беларуськаліі".

**charter97.org**

# Год за кратамі




15 верасьня спаўняецца роўна год,як лідэра "Маладога Фронту", нашага сябра й змагара Зьмітра Дашкевіча, асудзілі на паўтара гады зьняволеньня за антыкантыстытуцыяны артыкул " ўдзел у несанкцыянаванай арганізацыі".

Зьміцер піша шмат лістоў сваім паплечнікам і сябрам, распавядае, што "адчувае сябе няблага ў той ступені, у якой можна сябе адчуваць у гэтым месцы", хоча як мага хутчэй ізноў пачаць актыўна дзейнічаць, настрой у яго баявы.

"Малады Фронт" у чарговы раз заяўляе, што не спыніць сваю дзейнасьць, якім бы не было становішча ў нашай краіне. Мы хочам, каб улады ведалі, што яны ніколі не здолеюць зьнішчыць такіх маладзёнаў, як Зьміцер Дашкевіч,з дабром, каханьнем, вераю і чысьцінёй у сэрцы й душы. Жыве НАШАЯ Беларусь!

## Шахтары страйкуюць, а НПГ спрабуе пікетаваць

Прадстаўнікі Незалежнага прафсаюза гарнякоў (НПГ) падалі заяўку на правядзеньне пікету супраць плянаванай адмены выплаты пэнсій за працу ў шкодных умовах.

Як паведаміў БЕЛАПАН арганізатар акцыі, старшыня выканаўчага бюро НПГ Генадзь Раманюк, пікет плянуецца правесьці ў Салігорску 2 кастрычніка.

**Паводле saligorsk.org**

# СУД НАД ІВАНАМ ШЫЛА

Прысуд Насьці Азарцы — 1 млн 240 тыс. Прысуд Івану Шылу будзе вынесены ў 17:45.. За разьвіцьцём падзей сачыце на нашым сайце.

9:00. Праз гадзіну пачнецца суд. Тым часам у начы ў Салігорску, пад час распаўсюду налепак прысьвечаных працэсу, ўжо былі затрыманыя Іван і Ільля Шылы, Зьміцер Яхевіч, Тацяна Буланава, Франак Вячорка і Сяргей Клюеў. Прыблізна а 3-ій ночы ўсё маладзёны былі вызваленыя бяз складаньня пратаколаў.

Салігорск, 10.01: Для суду над салігорскім актывістам Іванам Шылам у мясцовым раённым судзе вылучылі самую вялікую залю, на 60 чалавек. Але яна ці не на палову запоўненая людзьмі, у якіх мясцовыя жыхары пазнаюць сацыяльных педагогаў мясцовых школ.

Падрымаць Івана прыехалі вядомыя палітыкі й праваабаронцы, сярод іх — Алесь Бялякі, Валер Ухналёў, Анатоль Лябедзька, Валянцін Стэфановіч. Сабраліся моладзевыя актывісты з Салігорску й іншых гарадоў. Яны абяцаюць праводзіць акцыю падтрымкі пад вокнамі суду.

Паводле nn.by

Салігорск, 10.14: Іван Шыла хадайнічаў, каб з залі быў выдалены невядомы чалавек, які здымаў паседжаньне на камэру. Судзьдзя хадайніцтва задаволіла й чалавек з камэрай пакінуў залю.

Іван заявў і ў працэсе ўдзельнічае перакладчыца беларускай мовы.

Паводле nn.by

Салігорск, 10.26: Пад будынкам Салігорскага суду сабралося каля 60-70 чалавек. Іх шчыльна абступіў АМАП, у моладзі сілай адабралі расьцяжку. Да суду пад'ехала тры міліцэйскія аўтобусы.

Моладзь скандуе «Свабоду!», «Жыве Беларусь!»

Паводле nn.by

Салігорск, 10.31: Жорсткі разгон моладзі ў Салігорску.

Перадае сьведка падзей: «Проста дзясяткі затрыманых, людзей б'юць проста каля суду, кідаюць у аўтазакі. Тут напросту сеча. »

Паводле nn.by

10.40: Сёньня ноччу ў 3 гадзіны 30 хвілінаў вызвалены з-пад арышту палітык Павал Севярынец. Павал Севярынец паведаміў, што ён сёньня мае намер прысутнічаць на судах у Нясьвіжы і Салігорску, дзе разглядаюцца справы сяброў "Маладога фронту" Насты Азарка і Івана Шылы.

Паводле Радыё "Свабода"



Салігорск, 10.43: Сьведкі паведамляюць, што пад час жорсткага затрыманьня моладзі астатнія ўдзельнікі імправізаванага мітынгу перад судом перакрылі шлях аўтобусу з затрыманымі. З аўтобуса выскачылі АМАПаўцы і адштурхнулі і зьбілі маладзёнаў. Затрыманых адвезьлі ў РАУС.

Салігорск, 10.47: Некалькі хвілін таму Іван Шыла прапанаваў судзьдзі адразу абвесьціць прысуд, бязь лішніх фармальнасьцяў. У справе фігуруюць матэрыялы праслухоўваньня тэлефонных размоў Івана.

Паводлe nn.by

Салігорск, 10.46: Іван Шыла адмовіўся даваць паказаньні. Суд заслухае паказаньні, якія Іван даваў у часе сьледзтва

Салігорск, 10.50: Моладзь, што засталася ля суду скандуе працягвае скандаваць "Жыве Беларусь" і патрабуе "Свабоды". Удзельнікаў стыхійнага мітынгу ля будынка суда, якіх раней затрымаў АМАП, трымаюць ля Салігорскага РАУС у АМАПаўскім ПАЗіке і па два чалавекі выводзяць у будынак пастарунка.

Салігорск, 11.11: Сьведкі паведамляюць, што затрыманых жорстка зьбівалі ў АМАПаўскім аўтобусе. Двое зьбітых сьцікаюць крывёй. Каля суду пакуль нікога не затрымліваюць, хоць стаіць яшчэ адзін пусты АМАПаўскі ПАЗік. Моладзь чакае сябраў, якія абяцаюць бліжэйшым часам зьявіцца.

Салігорск, 11.18: Паступіла інфармацыя, што сярод затрыманых маладзёнаў Ільля Шыла, Франак Вячорка, Зміцер Хфедарук, Кацярына Галіцкая, Людміла Атакулава.

Салігорск, 11.27: У працэсе абвешчаны перапынак на 15 хвілін. Дапыталі сьведкаў — трох супрацоўнікаў міліцыі. Яны сказалі, што Іван Шыла вывешваў расьцяжкі, распаўсюджваў улёткі. Аднак багата сьведкаў сьведкаў не зьявіліся. Цяпер судзьдзя вырашае, ці можна разглядаць справу далей бязь іх удзелу.

Паводле nn.by

Салігорск, 12.09: Па інфармацыі з пастарунка міліцыі на Галіцкую і Краснова склалі пратаколы і цяпер іх чакаюць "суткі".

Салігосрк, 12.19: На сайце радыё "Свабода" зьявіліся фота з разгона ля суда над Іванам Шыла.

Салігорск, 12.20: Ля будынка суда ўсталяваўся спакой. Моладзь, што засталася ля будынка чакае навінаў з залі суда і з міліцэйскага пастарунка.

Салігорск, 12.47: І ў Салігорску ў якасьці доказаў выступаюць раздрукоўкі з сайтаў і выразкі з газэт у дадатак да тэлефонных праслухоўваньняў.

Паводле nn.by

Салігорск, 13.10: Абвесьцілі перапынак на 30 хвілін. Былі дапытаныя дадатковыя сьведкі, зачытаная характарыстыка з школы. Да суду пад'ехалі Вінцук Вячорка і Вячаслаў Сіўчык.

Паводле nn.by

Салігорск, 13.40: У Нясьвіжы прадстаўнік пракуратуры просіць у якасьці пакараньня Насьце Азарцы 500 базавых адзінак. Гэта дае надзею,



што і пракурор у Салігорску ня будзе патрабаваць зьняволеньня непаўнагадовага Івана Шылы.

Салігорск, 13.45: На гаўбцы ў доме насупраць суда пэрыядычна зьяўляецца бел-чырвона-белы сьцяг. Часам пад'язджае аўтамабіль МНС зь лесьвіцай і сьцяг зьнікае, але потым лунае зноўку.

**Працяг старонка 4**

# СУД НАД ІВАНАМ ШЫЛА

**Працяг.Пачатак на старонке 3**

Салігорск, 13.45: Пад час перапынку на прыступках ля залі суда заўважаны шматлікія прадстаўнікі праваабарончых рухаў, палітычных партый, прадстаўнікі АБСЭ і ААН, замежных дыпмісій. Сярод прысутных Алесь Бяляцкі, Людміла Гразнова, Анатоль Лебядзько. Салігорск, 13.50: Зьявілася інфармацыя, што Тацьцяне Буланавай з Магілёва міліцыянты зламалі палец.

Цяпер яе вязуць на "хуткай" у Салігорскую райбальніцу. Акрамя таго зьявіліся дадзены, што прыйшоў загад на вызваленьне ўсіх затрыманых на ганку суда. Тым не менш многіх затрыманых актывістаў ужо разьмясьцілі ў ІЧУ, сярод якіх і лідэр Моладзі БНФ Алесь Каліта.

Салігорск, 14.01: На сайце ucpb.org зьявілася інфармацыя, паводле якой Анатоль Лебядзко абвінавачвае салігорскі выканкам у зьбіцці моладзі. "Фактычна Салігорскі выканкам справакаваў зьбіцьцё моладзі каля будынка суда. З гэтай мэтай у горад прыбыў менскі спэцназ," - заявіў Лебядзько.

Нясьвіж, 14.01: Павал Севярынец па вызваленьні пасьля арышту прыехаў у Нясьвіж на суд над актывісткай "Маладога фронту" Настай Азаркай. Палітык павітаў дзяўчыну і яе паплечнікаў.

Паводле Радые Свабода

Салігорск, 14:34 Як паведаміў Вінцук Вячорка, зараз ў РАУСе Салігорска знаходзяцца затрыманыя раней актывісты, якія чакаюць далейшых крокаў з боку міліцыі. Гэта Франак Вячорка і Алесь Каліта з «Моладзі БНФ» і спадар Ясевіч з «Маладога Фронту».

Вінцук Вячорка зараз ідзе ў РАУС, каб высьветліць лёс затрыманых і аддаць перадачу.

Паводле nn.by

Салігорск, 14:43 У Салігорску абвешчаны чарговы перыпанак.

Былі зачытаныя паказаньні сьведкаў, якіх не было на судзе, прадэманстраваныя рэчдоказы": аўдыёкасэты, кампакі-дыскі, павызкі. значкі Малады фронт. Бацька Івана Шылы, як афіцыйны прадстаўнік непаўна-летняга Івана Шылы, адмовіўся даваць характарыстыку сыну.

Паводле nn.by

Салігорск, 14:51 На вуліцы, ля будынку суду, стаіць каля 50 чалавек. У асноўным гэта моладзь у саколках «Малады Фронт», некаторыя трымаюць партрэты Зьмітра Дашкевіча, гукаюць лёзунгі салідарнасьці. Міліцыянтаў каля суду 20 чалавек, яны ўсё фільмуюць на відэа. Паводле ацэнак прысутных, прысуд Івану Шылу сёньня можа быць ня вынесены: яшчэ нават не пачыналіся судовыя спрэчкі. Тым часам у Нясьвіжы Настцы Азарцы внесьлі прысуд: 40 базавых адзінак (1 млн 200 тысячаў) штрафу.



Паводле nn.by

Салігорск, 15.37 Удакладнены сьпіс затрыманых у Салігорску маладзёнаў, што застаюцца за кратамі: Алесь Каліта, Франак Вячорка, Зьміцер Хведарук, Зьміцер Ясевіч, Віктар Дзенісевіч. Ім адмовіліся браць перадачы.

Салігорск, 15.42 На судзе прысутнічаюць прадстаўнік руху "За свабоду" Ігар Лялькоў, прадстаўнікі амбасады ЗША ў Беларусі і праваабарончай арганізацыі "Міжнародная амністыя".

Паводле Радыё "Свабода"

Салігорск, 15.42 Пракурор запатрабаваў асудзіць Шылу без прызначэньня пакараньня.

Паводле nn.by

Салігосрк, 15.52 Тры хвіліны таму затрыманыя Ільля Шыла, Дзяніс Карноў, Кася Галіцкая. Ільля Шыла, 14-гадовы родны брат Івана Шыла, затрыманы ўжо другі раз за дзень. Тым часам ранейшым затрыманым дазволілі перадаць перадачу.

Салігорск, 16.01 Па ўдакладненых дадзеных акрамя вышэйадзначаных трох актывістаў былі затрыманыя яшчэ чатыры. Двух зь іх ўжо вызвалілі.

Сярод вызваленых Аляксей Шэін. У пастарунку таксама знаходзіцца непаўнагадовая Хрысьціна Самойлава. Дзяніса Карнова хучэй за ўсё зьмесьцяць у ІЧУ да пяцёх раней затрыманых маладзёнаў, суд над якімі павінен адбыцца заўтра.

Салігорск, 16:07. Адвакат просіць апраудаць Івана.

Паводле nn.by

Салігорск, 16:07 Суд над затрыманымі сёньня раніцай у Салігорску моладзевымі актывістамі пройдзе заўтра, 5 верасьня

Паводле nn.by

Салігорск, 16:24 Прысуд Івану Шылу будзе вынесены ў 17:45.

Паводле nn.by Пасьля вынясеньня прысуду-Іван Шыла атрымаў папярэджаньне, калёна, якая налічвала 50 чалавек рушыла да мясцовага РАУСу, дзе знаходзіліся затрыманыя. Моладзь передала перадачы і дачакалася, покуль вызваляць затрыманых непаўнагадовых удзельнікаў.

9 чалавек зьмясьцілі ў ізалятары часовага ўтрыманьня. Заўтра, у 9:00 над імі адбудзецца суд. Заклікаем прыйсьці і падтрымаць.




**Фотарэпартаж**

**http://fota.saligorsk.org/thumbnails.php?album=100**

**Паводле saligorsk.org**

# Прадпрымальнікі падазраюць службоўцаў у змане

Падобна, што Салігорская вэртыкаль разглядае дробны бізнэс як рахманую «дойную карову». Але і яна, аказваецца, можа бадну́ць. На днях прадпрымальнікам з муніцыпальнага рынку «Кастрычніцкі» абвясьцілі аб раптоўным падвышэньні арэнднага поплатка на 0,5 эўра за квадратны мэтар гандлёвага пляца. Рынак новы, толкам не абсталяваны, нават электрычнасьць на гандлёвыя шэрагі яшчэ не падведзена. Няма і належнай аховы ў начны час. Ад гэтага частка ІП ужо адчула фінансавыя страты. Тады з чаго б плаціць больш? Усё растлумачыў на агульным зборы рынку дырэктар ЖКГ-Комплексу Ігар Дзялендзік. Маўляў, рынак – структурная адзінка гэтага прадпрыемства. А апошняе набрала на розныя патрэбы крэдыты ў слоіку. Грошай на пагашэньне бракуе.

Прадпрымальнікаў гэты довад не пераканаў. Спыталі, чаму службоўцы парушаюць указ Прэзыдэнта за № 1/6336 ад 25 сакавіка 2005 года, паводле якога арэндная стаўка на рынку ў гарадах абласнога падначаленьня не павінна перавышаць пяць эўра, якія яны пакорліва і выплачвалі. На што прадстаўнікі райвыканкама і галоўны эканаміст ЖКГ-Комплексу адказалі, што гэты ўказ «Аб неадкладных мерах па падтрымцы прадпрымальніцтва» дакранаецца толькі прыватных рынкаў.

– Вы жадаеце сказаць, што ў нас прыватныя рынкі ў больш прывілеяваным становішчы, чым дзяржаўныя? – пацікавіліся прадпрымальнікі.

– На мой погляд, мясцовыя службоўцы яўна спрабавалі абдурыць нас, – лічыць прадпрымальнік Аляксандар Панкевіч. – Даказвалі, што падвышэньне стаўкі за арэнду ўзгодненае з аблвыканкамам. Я яшчэ да збору патэлефанаваў у аблвыканкам Зьміцеру Паўлавічу, які курыруе нашу дзейнасьць. Той сказаў, што аб гэтым яму нічога не вядома.

Меркаваньне аб тым, што Салігорскія службоўцы хітруюць, склалася ў ІП Тацьцяны Кучынскай. Яна з групай прадпрымальнікаў за дзень да збору хадзіла да намесьніка старшыні райвыканкама па эканоміцы Ірыны Зубарэвіч.

Па словах Кучынскай, намесьніца старшыні горача запэўнівала іх, што падвышэньне арэнды ўзгодненае з вобласьцю.

Аднак нікому з ІП дакумэнтаў аб гэтай дамоўленасьці не паказалі. І на зборы на рынку, і ў кабінэце райвыканкама высылаліся толькі на вусновую дамову. А яно, як вядома, юрыдычнай сілы ня мае: у выпадку чаго ад яго можна і адмовіцца.

– У чарговы раз спрабуюць бессаромна падаіць ІП, – выказваецца прадпрымальнік Вера Максымовіч. – Карыстаюцца нашай юрыдычнай і прававой непісьменнасьцю, тым, што шматлікія проста баяцца канфліктаваць са службоўцамі, нават у шкоду сваім законным інтэрасам.

Аб падвышэньні стаўкі арэнды на «Кастрычніцкім» абвясьцілі за некалькі дзён да збору. Некаторыя з найболей баязьлівых ужо і аплацілі гэтыя павышаныя стаўкі. Не чакаючы падпісаньня новай дамовы.

Апошні час на рынку не было адзінства сярод прадпрымальнікаў. Значная частка ІП, расчараваўшыся ў ранейшай Радзе рынку, спрабавала яго перавыбраць. Аднак новы склад не зацвердзіў райвыканкам, спаслаўшыся на тое, што не было кворуму. Натуральна, службоўцам выгодна такое становішча спраў. Адвечнае — падзяляй і пануй.

Аднак зараз як легітымная рада так і нясьцьверджаная, падобна, будуць працаваць разам. І тая і іншая заявілі аб сваім намеры адстойваць ранейшы арэндны поплатак і патрабаваць перагляду ізноў выпечанай дамовы. Рыхтуюць калектыўныя скаргі ў Дзяржкантроль і іншыя высокія інстанцыі, запісваюцца на прыём у аблвыканкам, распрацоўваюць пратаколы рознагалосься́ў па новай дамове і раяць ІП пакуль не сьпяшацца яго падпісваць.

– Акрамя падвышэньня стаўкі падатку нас не ўладкоўвае яшчэ шэраг становішчаў, – гаворыць чалец «нелегітымнай» Рады рынку Сьвятлана Чакур. – Напрыклад, калі ІП тыдзень не гандлюе без паважлівага, на погляд адміністрацыі, чыньніку, зь ім ужо маюць права скасаваць дамову. Нават калі ён аплаціў арэнду на месяц наперад. Гэта непрымальна. Абараніць свае інтэрасы мы можам толькі ўсё разам.

**Ларыса Насановіч**



**19 жніўня 2007 г. Салігорск Цэнтральная плошча**

# ЖЫВУ Ў БЕЛАРУСІ І ТЫМ ГАНАРУСЯ

1 верасня мы адзначылі Дзень ведаў і 2 верасня - Дзень беларускай пісьменнасці. У гэтым годзе таксама святкуем 125-годдзе з дня нараджэння Я. Коласа і Я. Купалы.

У незвычайнае падарожжа адправіліся вучні 4 "В" класа гімназіі № 2 г. Салігорска пад кіраўніцтвам сваёй настаўніцы Святланы Мікалаеўны Сігай па краіне творчасці вялікіх беларускіх пісьменнікаў Я. Купалы і Я. Коласа. Спачатку настаўніца прапанавала падзяліцца на групы і прадоўжыць падарожжа не як вучням, а як карэспандэнтам, якія атрымалі заданне ад рэдакцыі па збору інфармацыі, каб надрукаваць заметку у газеце.

Пры дапамозе камп'ютэрных слайдаў «юныя супрацоўнікі рэдакцыі" свой шлях пачалі з Коласаўскіх мясцін, дзе нарадзіўся, жыў і працаваў паэт. Затым чыталі вершы, аналізавалі іх. Далей вучні адправіліся па Купалаўскіх мясцінах. Завяршылі свае падарожжа у музеях Я. Коласа і Я. Купалы і вакол помнікаў Я. Коласу і яго літаратурным героям у Мінску на плошчы Я. Коласа. Лічым, карысна і невыпадкова пачаць навучальны год з такога незвычайнага падарожжа, бо тым самым настаўнік не толькі знаёміць з творчай дзейнасцю пісьменнікаў, але і выхоўвае любоў да роднага краю, да сваёй Айчыны і мовы, да свайго народу, прывівае жаданне годна называць сябе беларусам. У вучняў, як і ў нас, бацькоў, засталіся самыя незабыўныя ўражанні. Гэтаму садзейнічала незвычайная форма правядзення ўрока.

**Калектыў бацькоў, вучні 4 "В" класа Гімназіі № 2 г. Салігорска**

# Севярынца асудзілі на 17 сутак

10 верасьня ў Баранавіцкім раённым судзе быў пакараны адміністрацыйным арыштам і штрафам моладзевы лідэр Павал Севярынец. Ён быў затрыманы раніцай ля суду, у якім судзяць Яраслава Грышчэню.

Паўлу інкрымінавалі парушэньне трох пунктаў адміністрацыйнага кодэксу: дробнае хуліганства («сьвістаў у сьвісток», паводле словаў супрацоўнікаў міліцыі), яго таксама абвінавацілі ў арганізацыі несанцыянаванага пікетаваньня пад будынкам суда і супраціве міліцыі.

Такім чынам Павал Севярынец асуджаны на 17 сутак: двое сутак далі за «сьвісток», 15 — за арганізацыю несанкцыянаванай акцыі. Пакаралі таксама штрафам у 20 базавых велічыняў (620 тыс. рублёў) — за супрацыў міліцыі.

Паводле Нашай Нівы

# ШАХТАРОЎ ДАСТАЛА



9 верасьня з 00.00 да 24.00 была спыненая праца па здабычы руды на ўсіх чатырох руднях РУП ВА"Беларуськалій" у г. Салігорску. Фактычна ж адбыўся сутачны страйк шахтароў. Быў ужыты "італьянскі" мэтад страйку: шахтары спусьціліся пад зямлю, але не прыступілі да працы ў сувязі з парушэньнем патрабаваньняў тэхнікі бясьпекі на працоўных месцах. Як вядома, страйкам было абхопленае каля 80% усіх падземных працоўных.

Асноўнымі чыньнікамі страйку салігорскіх шахтароў стаў намер ўрада пазбавіць працоўных шэрагу іх сацыяльна-эканамічных заваёў, атрыманых пад час страйкаў 1991-1993 гг.:

- намер спыніць выплаты пэнсій за працу ў шкодных умовах працы, калі працаўнік працягвае сваю наступную працоўную дзейнасьць у аб'яднаньні;
- намер спыніць альбо значна паменшыць выплату дапамогі пры выйсьці на пэнсію (так званых "грабавых");
- намер скараціць адпачынак падземным працоўным і зраўнаваць яго да 40 дзён (у цяперашні час адпачынак шахтароў якія працуюць непасрэдна ў забою дасягае 56 дзён);
- намер вылучаць грошы на аздараўленьне падчас адпачынку толькі пры ўмове набыцьця працаўнікамі пуцёвак у санаторыі (прафілякторыі).

Сталая нявызначанасьць і няўпэўненасьць у станоўчым вырашэньні назапашаных праблем і магчымае пазбаўленьне сацыяльна-эканамічных заваёў, а гэтак сама неатрыманьне выразных адказаў на свае пытаньні ад кіраўніцтва аб'яднаньня ў асобе генэральнага дырэктара РУП ПА "Беларуськалій" Башуры А. Н., па выразе саміх шахтароў "дастала".

Страйк па "італьянскаму" мэтаду быў падрыхтаваны брыгадзірамі падземных працоўных, якія за тыдзень да страйку канфідэнцыйна сустрэліся і вызначылі плян сваіх сумесных дзеяньняў на ўсіх чатырох руднях аб'яднаньня. Дадзены страйк насіў папераджальны характар. Калі ўрад будзе і далей настойваць на пазбаўленьні салігорскіх шахтароў сацыяльна-эканамічных заваёў, альбо ў выпадку перасьледаваньня ўдзельнікаў і арганізатараў страйку, шахтары маюць намер пачаць бестэрміновы страйк з далучэньнем наземных працаўнікоў абагачальных фабрык і дапаможных цэхаў. У дадзены момант паміж падземнымі і надземнымі падраздзяленьнямі працоўных вядзецца каардынацыйная праца аб сумесных дзеяньнях па абароне сваіх сацыяльна-эканамічных інтэрасаў.

Кіраўніцтва Незалежнага Прафсаюза Гарнякоў не пацьвярджае сваё дачыненьне да арганізацыі страйку. У сваю чаргу зьявілася інфармацыя аб дачыненьні да арганізацыі акцыі пратэсту так званых "чырвоных" дырэктараў з асяродзьдзя кіраўніцтва аб'яднаньня.

У сувязі з адбыўшымся страйкам у Салігорску на ўсе рудаўпраўленьні РУП ВА "Беларуськалій" накіраваныя супрацоўнікі КДБ для ацэнкі сытуацыі, выяўленьня арганізатараў і вызначэньня магчымасьці сілавога ўмяшаньня пры аднаўленьні страйку.

**Прэс-рэліз Салігорскага прадстаўніцтва БХК**

## Падпішы зварот да гэнэральнага сэкратара ААН

8 верасня Беларускі Моладзевы Рух Амэрыкі правоёў акцыю у падтрымку маладых актывістаў на Беларусі, якіх антыбеларускі рэжым імкнецца незаконна асудзіць і пазбавіць волі. Ля будынку ААН сабралася каля 20 чалавек з розных гарадоў Амэрыкі: Нью-Йорка, Вашынгтона, Бостана і іншых. Пад час пікету быў зачытаны зварот лідэра беларускага адраджэньня Зянона Пазьняка да моладзі з нагоды Дня Вайсковай Славы і акцыі. Падчас пікету быў прыняты зварот да гэнэральнага сэкратара ААН Бан Кі-муна. Зварот заклікае яго паўплываць на становішча на Беларусі і ўзьняць пытаньне аб яе дэмакратызацыі ў савеце бясьпекі ААН. Гэты зварот можа падпісаць кожны беларус праз інтэрнэт на сайце www.belmov.org Праз два тыдні зварот з усімі сабранымі подпісамі будзе адасланы ў ААН

## У Кубку Беларусі Шахцёр сустрэнецца з "Мінскам"

11 верасьня адбылася апошняя гульня 1/16 фінала Кубку Беларусі па футболе. Каманда першай лігі "Мазыр" на сваім стадыёне

прымала менскае "Дынама" і атрымала паразу зь лікам 1:4(Караткевіч, 46+; Рак, 22-п, 62, Эду,71, Пуціла, 73)

Такім чынам, сталі вядомы ўсе пары ўдзельнікаў наступнае стадыі Кубку, гульні якога пройдуць вясною будучага году:

БАТЭ(Барысаў)-"Верас"(Нясьвіж, Д2), "Хімік" (Сьветлагорск, Д2)-"Мясакамбанат(Віцебск, Д3),МТЗ-РІПА-"Камунальнік"(Жлобін, Д3), "Гомель"-"Дынама"(Берасьце), "ШАХЦЁР"(САЛІГОРСК)-"МІНСК", "Дарыда"(Менскі раён)-Нёман (Горадня), "Дынама"(Менск)-"Лакаматыў"(Менск, Д2), "Віцебск"-"Днепр"(Магілеў)

## "Белсат": "Мы думаем ня толькі пра колькасьць, але і пра якасьць кліпаў"




На мінулым тыдні ў нашым эфіры прагучаў матэрыял аб праблемах, якія ўзьнікаюць у тэлеканалу "Белсат" пры здымках кліпаў на музыку беларускіх выканаўцаў. У матэрыяле было некалькі памылак, у тым ліку гаварылася, што польскі прадусар Ігар Знык зьўляецца каардынатарам "Белсату" – на самай справе гэта ня так. Пра тое, як насамрэч выглядае супрацоўніцтва каналу зь беларускімі музыкамі расказвае прадстаўніца "Белсату" Ганна Кавальска. Зь ёю ў Варшаве гутарыў наш карэспандэнт.

Паводле спадарыні Кавальскай, кліпы беларускіх выканаўцаў на замову "Белсату" здымаюць некалькі прафэсійных прадусарскіх фірмаў.

Кавальская: "Мы прапануем ім – вось, ёсьць такі гурт, і мы б хацелі мець ягоны кліп. Прадусары адказваюць за тое, каб падпісаць кантракты, набыць правы на кліп, запрасіць музыкаў, а потым прадаюць кліп нам. У нас ёсьць ужо даволі шмат кліпаў, увесь час робіцца наступныя".

Карэспандэнт: "Спадарыня Ганна, зьявілася інфармацыя аб тым, што некаторыя беларускія музыкі незадаволеныя якасьцю кліпаў на іхныя творы, якія былі зьнятыя для вашага каналу..."

Кавальска: "Кліп – гэта мастацкая праца, і кожны можа мець на яго ўласны погляд. Камусьці падабаецца, а камусьці – не. Мы супрацоўніцтвам з прадусарскімі фірмамі задаволеныя. Якасьць кліпаў, што тычыцца здымкаў, сьвятла – добрая, гэта робіцца прафэсійна. Канешне, у гурта могуць быць іншыя патрэбы. Я б хацела каб было так – калі гурт не задаволены, трэба патэлефанаваць і сказаць: мы хочам нешта зьмяніць. І тады можна гэта абмеркаваць. Кліп гэта ня нешта такое, што зроблена аднойчы і кропка – заўсёды можна нешта зьмяніць".

Карэспандэнт: "Белсат" абверг інфармацыю аб тым, што плянуецца зьняць 100, а паводле некаторых паведамленьняў – нават тысячу кліпаў. Які ўсё ж пляны, што да колькасьці кліпаў?"

Кавальска: "Мы плянуем зрабіць столькі кліпаў, каб хапіла на музычныя праграмы, каб пачаць рабіць гэтыя праграмы. Але гэта безумоўна ня так, што мы думаем толькі пра колькасьць – зусім не. Мы думаем таксама пра якасьць, пра ідэі, якія ёсьць у гэтых кліпах".

**Паводле Радыё Свабода**

## Салігорскіх маладафронтаўцаў затрымалі пад Воршай

Каля 100 актывістаў апазіцыі былі затрыманыя 8 верасня, у Дзень беларускай ваеннай славы, у Оршы і Магілёве. Толькі на Крапівенскім полі, дзе павінен быў прайсці бардаўскі фэст, былі затрыманыя больш як 40 чалавек. Група грамадскіх актывістаў з 20 чалавек затрыманая ў Магілёве. У Оршы людзей здымалі з цягнікоў, аўтобусаў, маршрутных таксі, трымалі гадзінамі ў міліцэйскіх аддзяленнях, а пасля саджалі на цягнікі і адпраўлялі назад. Але 9 верасня на Крапівенскім поле былі зноў схопленыя 20 чалавек. Сярод затрыманых шмат вядомых людзей: бард Андрэй Мельнікаў, мастак Алесь Пушкін, моладзевыя лідэры Зміцер Хведарук, Андрэй Шарэнда, актывісты Іван і Ілля Шыла.

Як паведаміў прэс-цэнтру Хартыі'97 моладзевы лідэр Павал Севярынец, 8 верасня людзей трымалі ў аддзяленнях міліцыі і не выпускалі да раніцы. Пры гэтым міліцыянты ўпэўнівалі, што ніхто фармальна не затрыманы – пратаколы не складаліся. Пад раніцу затрыманыя 8 верасня людзі былі вызваленыя.

Але арышты працягнуліся на наступны дзень. Затрыманых 9 верасня актывістаў прывезлі ў аўтазаках у Аршанскае раённае аддзяленне міліцыі і трымалі некалькі гадзін у актавай зале. Супрацоўнікі міліцыі ўжо было пачалі выпускаць некаторых з затрыманых пасля праверкі дакументаў, "аднак у гэты час хтосьці з акна РУУС выкінуў на вуліцу чырвона-зялёны сцяг, які з`яўляецца дзяржаўным". "Пасля гэтага, – паведаміў Севярынец, – супрацоўнікі міліцыі ізноў сталі затрымліваць нават тых, хто ўжо быў вызвалены і знаходзіўся побач з будынкам РУУС.

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, моладзевым актывістам пакуль інкрымінуецца непаважлівае стаўленне да дзяржаўнай сімволікі".

Паводле дадзенага абвінавачвання затрыманыя мастак Алесь Пушкін, моладзевыя актывісты Аляксей Янушэўскі і Алена Макарэвіч.

Вядома таксама, што сакратара аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Дзяніса Садоўскага абвінавачваюць у супраціўленні і непадпарадкаванні патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. Адзін з міліцыянтаў сцвярджае, што Дзяніс падрапаў яму руку. З 8 верасня актывіст знаходзіцца ў Аршанскім гарадскім аддзяленні міліцыі.

8 верасня супрацоўнікі міліцыі і спецслужбаў сустракалі цягнікі з Менска, Магілёва, Гомеля і Віцебска, адкуль на бардаўскі фэст ехалі дзесяткі людзей. Затрымліваліся аўтобусы, легкавыя аўтамабілі, маршрутныя таксі.

Само Крапівенскае поле два дні было ачэпленае супрацоўнікамі міліцыі. Ужо напярэдадні свята, 7 верасня, міліцыянты заявілі, што ім паступіў званок пра тое, што поле нібыта замінаванае.

Нагадаем, што такім чынам апраўдвалася менская міліцыя, калі ўварвалася на спектакль «Свабоднага тэатра» і арыштавала ўвесь акцёрскі і рэжысёрскі склад, а таксама гледачоў.

**Паводле saligorsk.org**

## У параўнаньні зь Менскам у Салігорску "сядзець" камфортней

11 верасьня з Салігорскага ІЧУ (ізалятар часовага ўтрыманьня) выйшаў кіраўнік моладзевага крыла БНФ Алесь Каліта.

Нагадаем, Алесь Каліта быў схоплены ў будынка Салігорскага суду чацвёртага верасьня як адзін з удзельнікаў акцыі салідарнасьці ў падтрымку Івана Шыла, лідэра дэмакратычнай моладзі Салігорска. Над апошнім у той дзень як раз праходзіў крымінальны судовы працэс. Інкрымінавалі дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі "Малады фронт". Івану вынесьлі папярэджаньне, а Алесю Каліце і Людміле Атакулавай салігорская "Феміда" уляпіла па сем сутак адміністрацыйнага арышту па артыкуле 2334 "Удзел у несанкцыянаванай акцыі".

– Пры наяўным у краіне рэжыме і нашым намеры вывесьці яе на рэйкі цывілізацыі, падобныя арышты ўжо ня страшаць, спыніць ня могуць, – гаворыць Алесь. – Але ў параўнаньні з Акрэсьціна, дзе сёлета я пабываў двойчы, у Салігорску сядзець лягчэй. Больш карэктнае, паважлівае стаўленьне ахоўнікаў, здавальняючае сілкаваньне. У нядзелю нават піражкі з павідлам, яйкі давалі. Ёсьць унутраны панадворак, дзе можна пагуляць, не абмежаваныя перадачы з волі.

– А як да вас ставіліся сукамэрнікі?

– Па-мойму, нават трохі ганарыліся, што сядзяць з палітычным. Сукамэрнікі мяняліся. У асноўным гэта тыя, хто ў нецвярозым стане ўчыніў у сямьі дэбош, зь кімсьці на падпітку пабіўся на вуліцы. Аб палітыцы распытвалі і дбайна ацэньвалі, як ахова зьвяртаецца са мной, і як зь імі.

Па словах Алеся, адрозьненьне ў звароце адчувалася. Зь сямейнымі скандалістамі і хуліганамі ня надта цырымоніліся.

На пытаньне, ці не перацягнуў ён сукамэрнікаў на апазыцыйную плятформу, Алесь сказаў:

– У нас зараз досыць цьвёрдае супрацьстаяньне з уладай, гэтыя людзі ўнутрана ня здужаюць быць з намі. Няма стрыжня.

Сапраўды, для таго, каб па п'янай лавачцы даць жонцы пад вока або спагнаць злосьць на малалетніх дзецях сілы духу не патрабуецца, характар гэтым не загартуеш. І павага не заваюеш. А вось у камэры цалкам прыйдзецца пасядзець. Часта нават разам з палітычным.

Толькі сустракаюць гэтыя катэгорыі пасьля выйсьця на волю па-рознаму. Алеся Каліту паплечнікі сустракалі зь кветкамі.

**Ларыса Насановіч**

## У сямейным фармаце




Дзесяцігодзьдзе «Маладога фронту» пачалося міліцэйскай засадай, а скончылася паяданьнем торту.

Роўна дзесяць гадоў таму, 6 верасьня 1997 году ў Палацы культуры «Сукно» прайшоў устаноўчы сход «Маладога фронту». Гэтую арганізацыю склала моладзь зь Менску, Магілёва і Горадні. 6 верасьня 2007 многія з тых людзей сабраліся ва ўправе Партыі БНФ, каб адзначыць гэтую дату.

Цікавае супадзеньне: у гэты самы дзень 5-годзьдзе сьвяткуе іншая моладзевая арганізацыя краіны — створаны ўладамі БРСМ. Нехта з прысутных на сустрэчы пажартаваў, што наўрад ці нехта зь міліцыянтаў ведаў пра гэту дату. Затое да дня народзінаў «МФ» міліцыя рыхтавалася з самай раніцы. "Ціхары" ператрасалі сумкі моладзі, што выходзіла зь сядзібы, некалькі чалавек нават адвезьлі ў пастарунак, але там паадпускалі, спаслаўшыся на «добры настрой».

Сьвяткаваньне насіла хутчэй сямейны, чым афіцыйны характар. Госьці паселі вакол стала, на якім стаялі тарты, садавіна, напоі і частаваліся цягам усяе вечарыны.

Нязьменны на працягу многіх гадоў старшыня «Маладога фронту» Павал Севярынец прапанаваў прысутным у самым пачатку выканаць гімн «Магутны Божа», пасьля чаго ўспомніў Зьмітра Дашкевіча, Артура Фінькевіча, Яраслава Грышчэню — «маладафронтаўцаў», якія адбываюць пакараньні ў турме і на «хіміі», ці «ходзяць» пад крымінальнай справай, і таму ня могуць прысутнічаць. Як герояў заля сустракала нядаўна асуджаных Івана Шылу і Насту Азарку. Той самы Іван Шыла папрасіў таксама згадаць пра Людмілу Атакулаву, «маладафронтаўку», што адбывае пакараньне ў салігорскай турме за акцыю салідарнасьці зь Іванам.

У першай частцы імпрэзы слова далі палітыкам, якія выйшлі з «Маладога фронту».

**Працяг на старонке 8**

## У сямейным фармаце

**Працяг , пачатак на старонке 7**

Напрыклад, намесьнікі старшыні Партыі БНФ Алесь Міхалевіч і Аляксей Янукевіч. Міхалевіч адзначыў, што кожны сёньняшні «маладафронтавец» варты дзесятку ранейшых, бо тады яшчэ не судзілі за ўдзел у незарэгістраваных арганізацыях, гэтак не прыціскалі моладзь. «Я захапляюся мужнасьцю сёньняшніх юнакоў, якія перанялі ад нас эстафэту ў «Маладым Фронце», — адзначыў Міхалевіч. Аляксей Янукевіч зачытаў верш Рыгора Барадуліна «Маладому фронту», які народны паэт Беларусі напісаў у траўні 1997 г.

Было зачытанае віншаваньне ад пасла ЗША ў Беларусі Карэн Ст'юарт. Яе прадстаўляў на імпрэзе першы намесьнік Джонатан Мур.

Севярынец узгадаў асноўныя этапы дзейнасьці арганізацыі — ад стварэньне моладзевага крыла БНФ у 1992 г. да крымінальных справаў Івана Шылы і Насты Азаркі, прысуды якім былі агучаныя за два дні да гэтага.

Пасьля быў зачытаны сьпіс галоўных дасягненьняў арганізацыі за гэтыя 10 гадоў. Прыводзім яго ў парадку ўбываньня: 10) Альтэрнатыўная Алімпіяда «Маладога фронту» (1998 год); 9) Акцыя «Беларусь — у Эўропу!»; 8) Варта ў Курапатах; 7) Адукацыйная акцыя «Шоў Беларушчыны»; 6) Акцыі на Дзень Сьвятога Валянціна; 5) Сатэлітныя арганізацыі «МФ» — «Край», «Зубр» і інш.; 4) Акцыя «Горад наш»; 3) Акцыі салідарнасьці са Зьмітром Дашкевіча, Паўлам Красоўскім, Зьмітром Хведаруком, Барысам Гарэцкім, Алегам Корбанам, Настай Палажанкай, Іванам Шылам і інш.; 2) Пакаленьне «Маладога фронту»; 1) Сам «Малады фронт».

На прызы ад Віталя Супрановіча была разыграная віктарына «Шоў Беларушчыны» па гісторыі «МФ». Севярынец пытаўся, колькі папяровых анёлаў было вывешана на сядзібе Партыі БНФ у 2000 г., калі сьвяткавалася 2000-ыя ўгодкі ад нараджэньня Хрыста, альбо колькі гадзін доўжыўся футбольны матч берасьцейскіх «маладафронтаўцаў», які пазьней увайшоў у Кнігу рэкордаў Гінэсу. Найбольш дасьведчаным у гісторыі «МФ» аказаўся яго колішні сустаршыня Сяржук Бахун зь Берасьця, ён выйграў тры дыскі.

Пры канцы імпрэзы Севярынец зачытаў крэда «Маладога фронту». «Мы баімся Бога і больш нікога, таму «Малады фронт» выстаяў усе гэтыя гады, калі развальваліся іншыя арганізацыі, калі перасьледавалі нашых актывістаў. Мы верым у Бога — гэта галоўная наша заслуга».

**Зьміцер Панкавец**

## Эўразьвяз не дазволіць Лукашэнку перабіраць сфэры супрацоўніцтва



Эўразьвяз выказвае занепакоенасьць чарговымі арыштамі грамадзкіх актывістаў у Беларусі. Прадстаўніца Эўракамісіі заявіла, што Эўразьвяз адхіляе прапановы афіцыйнага Менску аб эканамічным супрацоўніцтве, бо ўмовай супрацоўніцтва зьяўляюцца дэмакратычныя зьмены ў Беларусі.

Эўразьвяз асуджае апошнія прысуды да адміністрацыйных арыштаў на 7 дзён, вынесеныя на гэтым тыдні ў Беларусі актывістам моладзевай арганізацыі «Малады Фронт». Пра гэта паведаміла прэсавы сакратар Эўракамісіі Крыстыяна Гоман. Яна, у прыватнасьці, заявіла:

«Мы занепакоеныя паведамленьнямі пра арышты на працяглы тэрмін грамадзкіх актывістаў за тое, што яны рэалізоўвалі сваё грамадзянскае права на выказваньне. Паўтарэньне палітычна матываваных арыштаў, якія мы назіралі ў апошнія месяцы, ставіць пад сумнеў гатовасьць Беларусі супрацоўнічаць з Эўразьвязам»

Спадарыня Гоман таксама паведаміла, што Эўразьвяз адхіляе прапановы аб больш шчыльным эканамічным супрацоўніцтве, у прыватнасьці, у транзыце энэргарэсурсаў, зробленыя на гэтым тыдні намесьнікам міністра замежных спраў Беларусі Валерам Варанецкім на канфэрэнцыі па эўрапейскай палітыцы суседзтва.

Прэсавы сакратар Эўракамісіі падкрэсьліла, што Эўразьвяз не дазволіць аўтарытарнаму кіраўніцтву Беларусі перабіраць, у якіх сфэрах супрацоўнічаць. Яна сказала, што дэмакратызацыя Беларусі застаецца абавязковай умовай для больш шчыльных сувязяў:

«Збліжэньне з Эўразьвязам патрабуе, каб Беларусь зрабіла пераканаўчыя крокі ў справе дэмакратызацыі і павагі да правоў чалавека, у тым ліку і права людзей выказваць свае думкі і права няўрадавых арганізацый на існаваньне»

У лістападзе летась Эўразьвяз вылучыў 12 ўмоваў , якія павінен выканаць Менск, для паляпшэньня адносінаў з аб'яднанай Эўропай. На думку спадарыні Гоман, дзеяньні беларускіх уладаў цалкам супярэчаць гэтым умовам.

## Мілінкевіч: Гэта непераможная моладзь

"Гэта непераможная моладзь" – так Аляксандар Мілінкевіч назваў маладафронтаўцаў, якіх учора судзілі ў Нясьвіжы ды Салігорску. Сам Аляксандар Мілінкевіч ня змог прысутнічаць на судох у Салігорску ды Нясьвіжы. Лідэр руху "За Свабоду" накіроўваецца ў горад Крыніца на поўдні Польшчы, каб узяць удзел міжнародным эканамічным форуме.

Івана Шылу й Яраслава Грышчэню Аляксандар Мілінкевіч наведаў на мінулым тыдні дома ў Салігорску й Баранавічах.

На думку Мілінкевіча, улада ня мае падтрымкі сярод моладзі, гэтым і тлумачацца перасьледы маладых дэмакратычных актывістаў.

А. Мілінкевіч: Улада адчувае няўпэўненасьць. Яна траціць маладых, бо менавіта сярод іх пратэстнасьць найбольшая. Улады хочуць запалохаць моладзь: хай сабе будуць супраць, але каб ня выступалі адкрыта. На думку людзей яны ўжо ўплываць ня могуць, але на актыўнасьць спрабуюць.

Дарэчы, як паведаміла "Польскаму радыё" кіраўнічка Камітэту абароны рэпрэсаваных "Салідарнасьць" Іна Кулей, актывісты атрымалі ад камітэту прапанову выехаць на час суду за мяжу.

І. Кулей: Усе адмовіліся, больш за тое, сказалі, што для іх гэта ганьба.

У Польшчы праводзілася акцыя салідарнасьці з падсуднымі маладафронтаўцамі. На тэлефонныя нумары актывістаў палякі дасылалі смс-паведамленьні са словамі падтрымкі.

Незалежна ад выніку суду, Мілінкевіч перакананы, што перасьлед моладзі зьяўляецца сьведчаньнем крытычнай сытуацыі, у якой знаходзіцца Аляксандар Лукашэнка.

А. Мілінкевіч: Гэтая моладзь непераможная. Нават калі яны сядуць у турму, гэта толькі прыблізіць час вызваленьня Беларусі.

**Дзьмітры Гурневіч**

Свабодны Салігорск
незалежная газэта Салігорска
Сувязь: 370-02-04 , 370-02-05 , salihorsk@gmail.com , http://gazeta.saligorsk.org
Газэта "Свабодны Салігорск". Адказнасьць за змешчаныя матэр'ялы нясуць аўтары.
Галоўны рэдактар : Жылінскій Я.Т. , Шэф-рэдактар : Рымашэвскій А.Б., Сакратар рэдакцыі : Захарчук А.У. , Галоўны прыбіральшчык : Лімонаў В.К. Надрукавана на асабістым абсталяваньні Генералісумуса Драбудзькі М.М.. ; Калумбія , г. Кукута , вул. Дон Хуана , д. 1917 , кв. 7 .